№10
Травень 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна–96"



# "Курапаты": 10 гадоў пасьля...

Дзесяць гадоў таму пра мясьціну "Курапаты" пад Менскам даведаўся ўвесь сьвет. І стаў гэты назоў на прасторах былога СССР яшчэ адным сінонімам сталінскіх рэпрэсіяў — як Салаўкі, Беламорканал, Калыма, Котлас, як Гулаг... Ва ўрочышчы "Курапаты" напрыканцы 30-х, напачатку 40-х гадоў кожную ноч чуліся стрэлы. Паводле падлікаў экспертаў, якія займаліся эксгумацыяй захаваньняў, тут было зьнішчана каля ста тысяч ні ў чым не вінаватых грамадзянаў — "ворагаў народа", "кулакоў", "нацдэмаў", "польскіх шпіёнаў"...

Сёньня, азіраючыся на не такую ўжо і далёкую даўніну, можна сьцьвярджаць, што працэс дэмакратызацыі на Беларусі пачаўся менавіта з выкрыцьця злачынстваў сталінізму, а дакладней з публікацыі ў газеце "Літаратура і мастацтва" 3 чэрвеня 1988 года артыкула Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва "Курапаты — дарога сьмерці".

Публікацыя гэтая літаральна скаланула Беларусь. Жаданьне даведацца ўсю праўду пра ахвяраў сталінізму прывяло да таго, што пачалі зьяўляцца зьвесткі пра "свае Курапаты" ледзь не каля кожнага буйнага горада Беларусі. Было вырашана аб'яднаць рух за дэмакратыю, галоснасьць і выкрыцьцё злачынстваў сталінізму ў адну арганізацыю пад назовам "Мартыралог Беларусі". "Мартыралог" стаў першай праваабарончай арганізацыяй на Беларусі, у якую ўвайшлі вядомыя дзеячы культуры, літаратуры, навукі. І ўрэшце, на першым паседжаньні "Мартыралогу" быў створаны Беларускі Народны Фронт, які стаў цэнтрам яднаньня дэмакратычных і адраджэнскіх сілаў Беларусі. А яшчэ празь некалькі дзён, 30 кастрычніка, у Менску, на сьвяткаваньне Дзядоў з шэсьцем і мітынгам у Курапатах, сабраліся тысячы гараджанаў. Улады напалохаліся і супраць мірных дэманстрантаў упершыню ў Беларусі была прыменена сіла: сьпецназ з вадамётамі, дубінкамі, газам... Дзесяткі чалавек былі зьбітыя, атручаныя нярвова-паралітычным газам, арыштаваныя... Беларускі народ і БНФ атрымалі першае хрышчэньне.

Зразумела, "Мартыралог" і БНФ паўсталі не пустым мейсцы. Былі на Беларусі і да таго нефармальныя інтэлігенцкія і маладзёжныя аб'яднаньні, самым вядомым і масавым зь якіх была менская "Талака", былі інелегальныя антыкамуністычныя структуры. Аднак, усёткі, тая публікацыя ў "ЛіМе" пра Курапаты стала нібыта каталізатарам працэсу яднаньня дэмакратычных, адраджэнскіх і праваабарончых сілаў Беларусі.

Пасьля публікацыі была ўзбуджаная крымінальная справа.

*(Працяг на стар. 2)*

## Хроніка

**_25 красавіка_ – пад час Чарнобыльскага шляху быў затрыманы студэнт геаграфічнага факультэту Белдзяржуніверсітэта Валеры Кароб-чыц. Праз некалькі дзён яго адлічылі з вучобы за няздадзены залік.**

**_29 красавіка_ – старшыня гродзенскай абласной арганізацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў Павел Жук зьвярнуўся да ўладаў з просьбаю дапамагчы арганізаваць выставу "Крыжовы шлях" і падшукаць для яе памяшканьне. Замест дапамогі ён атрымаў адказ ад намесьніка старшыні гарвыканкаму Я.Жэбруна, у якім той папярэджваў пра неабходнасьць "прадставіць плануемую праграму выставы" і напамін пра тое, што без папярэдняга зацьверджаньня праграмы "вертыкальлю", мерапрыемствы ў горадзе забароненыя.**

**_У траўні_ – жонка былога міністра сельскай гаспадаркі В.Лявонава зьвянулася з адкрытым лістом да прэзідэнта А.Лукашэнкі, у якім яна піша, што яе мужа арыштавалі за тое, што "В.Лявонаў дбаў пра свабоду і свабоднае жыцьцё сялян... Няма крымінальнай справы міністра Лявонава. Ёсьць палітычная справа супраць чарговага грамадзяніна, які дазволіў сабе жыць і думаць чэсна і самастойна".**

**_10 траўня_ – Сяргей Навумчык, палітычны эмігрант, дзяяч БНФ "Адраджэньне", прапанаваў сябе ў якасьці заложніка ў абмен на палітычных зьняволеных 19-гадовага А.Шыдлоўскага і 21-гадовага П.Севярынца. У адкрытым лісьце да прэзідэнта А.Лукашэнкі, ён напісаў: "Вы паводзіце сябе як тэрарыст, які захапіў дзяцей. Калі вам патрэбны заложнікі, то я згодны ім быць"**

*(Працяг на стар. 6)*

 



# Шляхам да апраўданьня катаў

**Гісторык Ігар Кузьняцоў, вядомы сваімі дасьледаваньнямі дзейнасьці карных органаў у СССР (ВЧК – МГБ – НКВД – КГБ), вымушаны быў зьвярнуцца ў суд дзеля абароны гонару і годнасьці ад паклёпу з боку «прыдворных калегаў»...**

Справа слухаецца ў Савецкім судзе Менску, куды Ігар Кузьняцоў зьвярнуўся яшчэ напрыканцы мінулага году. Падставай стала памятная многім серыя публікацыяў у афіцыйным беларускім друку за подпісам нібыта калегі Кузьняцова – «прафесара Адама Залескага». Зацікаўлены чытач тады, увосень 97-га, меў выпадак высьветліць, што Залескі — рэальная асоба, вядомая сваёй адыёзнасьцю ў асяродзьдзі навукоўцаў і камуністычна-савецкай артадаксальнасьцю. Хоць не сакрэт, што сапраўдны гісторык мусіць у любых высновах грунтавацца на дакументальных зьвестках і быць над усялякімі ідэалогіямі — тым больш ідэалогіяй пануючай... Тым ня менш сп. Залескі якраз напярэдадні Дня Памяці — Дзядоў выдаў (накладам, роўным накладу «Народнай газеты») індульгенцыю катам 20-30-х гадоў. На думку «прафесара», бязьвінна закатаваныя людзі, названыя карнікамі «ворагамі народа», вінаватыя самі ў сваіх пакутах. «Віна» была таксама ўскладзеная на сваякоў і землякоў ахвяраў сталінска-бальшавіцкага генацыду.

Такім чынам, у постсавецкай Рэспубліцы Беларусь ня толькі ніхто не пакаяўся, не папрасіў прабачэньня за вынішчэньне бязьвінных людзей у змрочныя для ўсіх народаў былога Саюза часы. Катаў тут апраўдалі. Ад апраўданьня да ўхваленьня і заахвочваньня – адзін крок. Няхай сабе краіна не вярнулася на сёньняшні дзень у рэаліі 37-га году літаральна, але што яе можа чакаць, калі народу прапануюць ухваліць сярэднявечныя прынцыпы інквізіцыі?

Ня будзем зараз, зрэшты, вяртацца да надрукаванага ўвосень, пералічваючы, колькі разоў і якім чынам праліўся афіцыйны бруд на І. Кузьняцова як навукоўцу. Ягоная карпатлівая праца ў архівах, знаходкі жахлівых па зьместу сакрэтных дакументаў выклікалі істэрычную рэакцыю сярод сучасных «прыдворных» ідэолагаў. Праўда пра савецкае мінулае сталася небясьпечным фактарам, калі з самай высокай трыбуны Беларусі даўно абвешчаны курс вяртаньня «назад, у СССР».

Зыскавая заява І. Кузьняцова, як бачым, праляжала ў судзе некалькі месяцаў, перш чым была ўрэшце прызначаная дата разьбіральніцтва. Але ў першыя два разы на паседжаньне суда (у сакавіку і напачатку траўня) не зьяўляліся то А. Залескі, то прадстаўнік «Народнай газеты». 13 траўня «працэс пайшоў», прыняўшы дзіўны, але вытлумачальны ў гэтай сітуацыі кірунак. Прыкладам, Залескі на працэсе прызнаўся, што пры напісаньні ягоных артыкулаў у якасьці нейкіх сааўтараў ці кансультантаў выступалі не названыя паймена афіцыйныя асобы з дзяржаўных структураў. Матэрыялы гэтыя ішлі ў друк з санкцыі дзяржаўных органаў (Залескі адмовіўся канкрэтызаваць, якіх менавіта, але, памятаючы пра падобныя ж прызнаньні былога журналіста газеты«Знамя юности» У. Зуева пра метады складаньня паклёпу на намесьніка старшыні ВС Г. Карпенку, цяжка не западозрыць удзел у «індульгенцыях» Залескага адміністрацыі Лукашэнкі).

На судзе паўстала пытаньне: артыкулы ў «НГ» – гэта абразы альбо «звычайная навуковая спрэчка» двух гісторыкаў? Дзеля высьвятленьня гэтага былі прызначаныя дзьве экспертызы твораў «Залескага і кампаніі» – гістарычная і літаратурназнаўчая. Гэтым займуцца спецыялісты з Акадэміі Навук РБ. Тым часам, да пачатку экспертызаў, працу экспертам палегчыў сам Залескі, і не заўважыць гэтага мог толькі той, хто вельмі не хацеў заўважаць. «Кузьняцова трэба судзіць толькі за ягоную палітычную пазіцыю!» - заявіў Залескі. Паводле наступнага сьцьвярджэньня, ягоны «навуковы апанент» – вораг, бо «друкуецца ў нацыянал-экстрэмісцкіх выданьнях». Дарэчы, Ігар Кузьняцоў са сваімі матэрыяламі неаднойчы выступаў на старонках многіх газетаў: да сярэдзіны мінулага года яго ахвотна друкавалі і тая ж «Народная газета», і «Мінская праўда», і нават прэзідэнцкая «Советская Белоруссия». Пакуль не паступіў загад «зьверху»: «не пушчаць».

Перад самым пачаткам разгляду справы ў судзе, 12 траўня, «НГ» надрукавала яшчэ адзін матэрыял на дадзеную (ці, хутчэй – зададзеную) тэму. Гэта быў агляд друку, які дружна абураўся Кузьняцовым і зьяўленьнем ягонага імя на старонках «нацыянал-экстрэмісцкіх апазіцыйных выданьняў». Да такіх, у прыватнасьці, была аднесеная газета «Здравый смысл», дзе друкаваліся архіўныя дакументы пра расстрэлы, перасьлед дысідэнтаў у больш позьні (50-60-я гады) час... Прычым архіўныя зьвесткі амаль ніколі не суправаджаліся каментарамі гісторыка, які іх прадставіў да друку: усё красамоўна было сказана фактамі з дакументаў. Тое, што зьбіраюць такія дакументы «ворагі», абвясьціў, зноў жа, А. Залескі: ён паставіў у віну Ігару Кузьняцову нават... удзел у навуковых канферэнцыях, прысьвечаных правам чалавека і гісторыі рэпрэсіяў.

Чым скончыцца судовае разьбіральніцтва ў Савецкім судзе, пакуль невядома. Магчыма, што Ігару Кузьняцову, як і настаўніцы Леанардзе Мухінай, пра "справу" якой мы пісалі ў адным з папярэдніх нумароў "ПВ", судзьдзя прачытае мараль: «Прыслухайцеся да калегаў»...

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Курапаты: 10 гадоў пасьля...

(Пачатак на стар 1)

Пракуратура рэспублікі правяла сьледства. Але вынікам яго сталі... ўсяго толькі кніга тагачаснага генеральнага пракурора БССР Георгія Тарнаўскага і інш. "Курапаты: сьледства працягваецца" і дзесяткі публікацый у газетах і часопісах. Ніводзін жа зь вінаватых у рэпрэсіях супраць беларускага народу (хоць многія зь іх дажылі да нашых дзён) ня толькі ня быў пакараны, але нават ня былі названы і тым болей не пакаяўся ў сваіх злачынствах. Больш за тое, з часам камуністы і сталіністы перахапілі ініцыятыву і пачалі хлусьліва сьцьвярджаць, што нібыта ў Курапатах пахаваныя ахвяры фашызму... У драбніцах паўтараецца гісторыя з Катыньню: савецкія ўлады да апошняга сьцьвярджалі, што там пахаваны польскія афіцэры, расстраляныя не чырвонаармейцамі, а фашыстамі.

Асабліва актывізаваліся абаронцы Сталіна і "адзінага і недзялімага Саюза" з прыходам да ўлады А. Лукашэнкі. На іх мітынгах, побач з партрэтамі Лукашэнкі, заўсёды "лунаюць" партрэты Сталіна. Праўда пра Курапаты замоўчваецца, затое час ад часу ў "патрыятычным" друку зьяўляюцца публікацыі, у якіх ахвяры сталінізму абвяшчаюцца ворагамі народа. Больш за тое, па "просьбах грамадскасьці" Пракуратура зноў аднавіла сьледства. Органы КДБ зноў, як і ў савецкія часы, пачынаюць займаць важнейшае мейсца ў дзяржаўнай структуры. І як вынік, у Беларусі зноў зьявіліся палітычныя зьняволеныя, якім "шыюцца" тыя ж самыя "антысавецкія" артыкулы, толькі падноўленыя на "незалежны" лад...

Не хочацца падацца гора-прарокам, аднак сёньня кожны новы крок прэзідэнта-дыктатара, на жаль, толькі набліжае нас да новых рэпрэсіяў.

**Андрэй НАЛІВА**

# Можа кожны падыйсьці і ўдарыць. Беспакарана...

28 траўня ў Віцебску праводзіўся пікет у абарону маладых палітвязьняў. Адказны за пікет быў лідэр «Маладога фронту» ў Віцебску Юрась Корбан. Пікет быў дазволены ўладамі і з боку пікетоўшчыкаў праводзіўся без парушэньняў. Адзін з грамадзянаў, з тых што падыходзілі да пікетоўшчыкаў, нанёс удар па твару сябру «Маладога фронту» Кастусю Буйшову, які трымаў сьцяг і не пасьпеў адхіліцца. Міліцыянты, што ахоўвалі грамадскі парадак пад час пікету, папрасілі грамадзяніна, які ўдарыў К. Буйшова, адыйсьці ўбок і адпусьцілі яго...

**В. ШАЛУХІН**



 

# Гары Паганяйла: "Перасьлед адвакатаў за іх прафесійную дзейнасьць — не дапушчальны...

**Зь вядомым беларускім адвакатам гутарыць карэспандэнт "Права на волю"**

***— Гары Пятровіч, выпадак, калі вас не дапусьцілі да абароны Паўла Севярынца, вельмі красамоўны. Ці ёсьць зараз у вас магчымасьць увогуле працаваць як адвакату на Беларусі?***

— Ацэньваючы становішча як юрыст, мяркую, што я маю права аказваць юрыдычную дапамогу грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія да мяне па гэтую дапамогу зьвяртаюцца, якія маюць патрэбу ў ёй. Таму, што ім гарантавана Канстытуцыяй і законамі права выбару абаронцы. Але сёньняшнія ўлады ўсё ж стараюцца мяне «не пушчаць»...

***— Ва ўсе справы, ці толькі палітычныя?***

— Ва ўсе справы. Гаворка ідзе ня толькі пра справу Севярынца — ёсьць і іншыя справы, у якіх мне «даюць адлуп», спасылаючыся на адпаведныя лісты Міністэрства юстыцыі. Паводле іх, я не зьяўляюся сябрам беларускай калегіі адвакатаў, а як расійскі адвакат не магу ўдзельнічаць у справах. Аднак, з 1993 году на тэрыторыі ўсіх краін СНД дзейнічае міждзяржаўная дамова – "Канвенцыя пра аказаньне прававой дапамогі...", згодна зь якой грамадзяне гэтых краінаў маюць роўныя правы ў выбары адваката. На практыцы гэтаму ёсць шмат прыкладаў. Украінец, які прыязджае ў Беларусь вырашаць нейкія маёмасныя справы, можа карыстацца як паслугамі беларускага адваката, так і ўкраінскага. Беларус мае права запрасіць расійскага абаронцу, расіянін – такое ж права на абарону беларускім адвакатам.

***— З Расіяй у нашай краіны ўвогуле асаблівыя стасункі! І вам чыняць перашкоды, не зважаючы на ўсе саюзы?!***

— Так, саюзныя стасункі тут не спрацоўваюць. Хаця згаданая "Канвенцыя..." была прынятая неўзабаве пасьля стварэньня СНД менавіта дзеля зручнасьці ўсіх грамадзянаў колішняга Саюзу: каб не былі перарваныя паміж рэспублікамі сувязі прававыя. Такім чынам, на тэрыторыі СНД людзям гарантавалася абарона іхніх правоў — зразумела, у межах заканадаўства той дзяржавы, дзе вырашаецца іхняя справа. Не ўзьнікала праблем з працай літоўскіх адвакатаў на тэрыторыі нашай краіны: даволі часта яны наведваюць памежную зону, беручы ўдзел у разглядзе парушэньняў на мытні. Мне самому даводзілася працаваць раней і ў Вільні, і ў Варшаве – як і маім калегам. Гэта звычайная практыка, якая абумоўленая дзеючымі міждзяржаўнымі дамовамі.

***— Вашая сям'я ўжо адчула на сабе ганеньні супраць вас?***

— Вядома. У дадзены момант я зьяўляюся беспрацоўным. Ні ў якія дзяржаўныя ўстановы мяне не бяруць на працу, калі ж гэта зробіць прыватная кантора – яе, хутчэй за ўсё, замучаюць рознымі праверкамі.



***— А не было жаданьня зьехаць – у Маскву, напрыклад?***

— Каб зьехаць у Маскву, патрэбна, прынамсі, 100 тысячаў, каб купіць там кватэру. Проста так яе ніхто не прапануўваў, а зарабіць такія грошы адвакату сёньня немагчыма. Няма такіх багатых кліентаў. Хіба могуць шмат заплаціць грошай тыя ж бацькі Паўла Севярынца? А іншыя людзі?

***— Гэта на Захадзе самыя забясьпечаныя людзі — адвакаты і лекары (здаецца, недзе на трэцім месцы ідуць журналісты)!***

— У зьбяднелым грамадстве ня можа быць багатых адвакатаў. Але зьязджаць... У імя чаго?! Тут жывуць мае блізкія людзі, вучацца дзеці!.. Уявіце сабе, увогуле, сітуацыю, калі пачнуць выязджаць з краіны ўсе, на каго тут аказваецца ўціск...

***— Хто ж тут застанецца?***

— Той, каго больш-менш задавальняе сітуацыя. Можа быць, ня варта палягчаць задачу сёньняшняй уладзе? Трэба жыць дома, на Радзіме, інačай нічога ня зьменіцца яшчэ доўгі час.

***— Якія зьмены апошнім часам адбыліся ў справе Тамары Віньнікавай? Што зараз з гэтай жанчынай?***

— Стан яе здароўя моцна пагоршыўся за час перабываньня ў сьледчым ізалятары камітэту дзяржбясьпекі. Не выключана, што само зьняволеньне, а таксама псіхалагічны стан прывялі да абвастрэньня хранічных захворваньняў, якія развіваліся ціха, дагэтуль не давалі пра сябе знаку. Шэраг захворваньняў, магчыма, яна атрымала падчас утрыманьня пад вартай.

***— Стан здароўя паўплывае на лёс чалавека, на прысуд?***

— Натуральна, гэта ж заўсёды ўлічваецца!

***— І калі ж суд?***

— Пакуль гэтага ніхто ня ведае. Тамара Віньнікава сур'ёзна хворая і рыхтуецца зараз да складанай аперацыі. Калі ўрачы змогуць яе дастаткова падлячыць для далейшага ўдзелу ў сьледчых дзеяньнях – значыць, сьледства працягнецца.

***— На якой стадыі знаходзіцца цяпер справа Паўла Шарамета і Зьміцера Завадскага?***

— На стадыі надзорнага перагляду. Пасьля вынясеньня прысуду Ашмянскім судом і перагляду ў Гродзенскім абласным, які прызнаў прысуд законным, былі пададзеныя скаргі на імя пракурора Гродзенскай вобласьці і старшыні абласнога суда. Але баюся, што афіцыйныя асобы, правамоцныя для вынясеньня пратэста па гэтых судовых пастановах, ня змогуць прыняць рашэньні, якія вынікаюць з усіх абставінаў справы. Калі асуджэньне будзе прызнанае «абгрунтаваным і законным», будзем зьвяртацца да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і старшыні Вярхоўнага суда. На гэтым наглядны парадак, які ўстаноўлены нашым заканадаўствам, сканчаецца. Але, прайшоўшы гэты парадак, гэтыя інстанцыі, гэтых службовых асобаў, мы, у выпадку адхіленьня нашых скаргаў, непрынясеньня пратэстаў па справе, што адбылася, маем намер прайсьці далейшы шлях: прадставіць справу ў Камітэт па правах чалавека пры ААН – са штаб-кватэрай у Женеве. Парламент Беларусі ратыфікаваў гэтак званы Факультатыўны пратакол № 1 па

(Працяг на стар. 7)

## Дакумент без каментарыяў

# "...Маючы намер пашкодзіць маёмасьць..."

*«Зацьвярджаю»*
*Пракурор Цэнтральнага раёну г. Менску*
*старшы саветнік юстыцыі А. С. Рубіс, 10 красавіка 1998 года.*

**АБВІНАВАЎЧАЕ ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ**
**па крымінальнай справе № 169998**

**по обвінавачваньні Мурашкі Паўла Валер'евіча, 26. 05. 1980 года нараджэньня па арт. 201 ч. I, 96 ч. I КК РБ.**

**Гілевіча Андрэя Аляксандравіча 19. 02. 1979 года нараджэньня, па арт. 201 ч. I, 96 ч. I, 205 КК РБ.**

**Мухіна Алеся Аляксандравіча, 9. 01. 1980 года нараджэньня, па арт. 201 ч. I, 96 ч. I, 205 КК РБ**

Гэтая крымінальная справа ўзбуджана 1. 03. 1998 года СА Цэнтральнага РАУС г. Менску ў адносінах да Мурашкі П. В., Мухіна А. А. і Гілевіча А. А. па прыкметах складу злачынства прадугледжанага арт. 201 ч. I КК РБ. *(л.с. – I)*

У ходзе папярэдняга сьледства па гэтай крымінальнай справе ўстаноўлена, што Мухін А.А. 1.03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Шчадрына 82, у горадзе Менску на бетонным плоце, які агароджвае тэрыторыю філіяла № 7 ТАА «Белпрамбуд сувязь», з выкарыстаньнем фарбы аэразолю, нанёс непрыстойныя надпісы, якія выказваюць яўную непавагу да грамадства.

Ён жа 1. 03. 1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 5 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Арлоўскай 26, у горадзе Менску на фасадзе названага дома, які належыць ТАА "Мінскі фарфоравы завод" з выкарыстаньнем фарбы аэразоля, нанёс непрыстойныя надпісы, у якіх выказваецца яўная непавага да грамадства.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 10 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Азізава 3, у горадзе Менску на сценах будынку СШ №79 з выкарыстаньнем фарбы аэразоля, нанёс непрыстойныя надпісы, у якіх выказваецца яўная непавага да грамадства.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 15 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся на прыпынку грамадскага транспарту "Кіеўскі сквер", разьмешчаным каля дома 42 вул. Арлоўскай 3, у горадзе Менску на паветцы, якая ўстаноўленая на прыпынку, што абслугоўваецца ДЭУ-1 Цэнтральнага раёну г. Менску з выкарыстаньнем фарбы аэразоля, нанёс непрыстойныя надпісы, у якіх выказваецца яўная непавага да грамадства, пасьля чаго быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, маючы намер пашкодзіць маёмасьць, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Шчадрына 82, у горадзе Менску выкарыстоўваючы фарбу аэразоль, запэцкаў агароджу філіялу №7 ІАА "Белпрамбуд сувязь", нанёс гэтым самым матэрыяльныя страты ў памеры 330 240 рублёў РБ.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 10 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, маючы намер пашкодзіць маёмасьць, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Арлоўскай 26, у горадзе Менску, выкарыстоўваючы фарбу аэразоль, запэцкаў фасад названага дома, які належыць ТАА "Мінскі фарфоравы завод", нанёс гэтым самым матэрыяльныя страты ў памеры 168 000 рублёў РБ.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 10 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, маючы намер пашкодзіць маёмасьць, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся па вул. Азізава 3, у горадзе Менску, выкарыстоўваючы фарбу аэразоль, запэцкаў фасад і сьцены будынка СШ № 79 нанёс гэтым самым матэрыяльныя страты ў памеры 3 041 472 рублёў РБ.

Ён жа 1. 03.1998 года, прыкладна ў 0 гадзінаў 10 хвілінаў, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня, маючы намер пашкодзіць маёмасьць, разам з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А., з хуліганскіх пабуджэньняў, знаходзячыся на прыпынку грамадскага транпарту "Кіеўскі сквер", разьмешчаным ля дома 42 па вул. Арлоўскай , выкарыстоўваючы фарбу аэразоль, запэцкаў паветку названага прыпынку грамадскага транспарту, нанёс гэтым самым матэрыяльныя страты ДЭУ-1 Цэнтральнага раёну г. Менску ў памеры 625 566 рублёў РБ пасьля чаго быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

Усяго Мухін А. А. разам з МУрашкам П. В. і Гілевічам А. А. нанесьлі матэрыяльныя страты на агульную суму 4 165 278 рублёў РБ.

Ён жа безумоўна ведаючы пра тое, што Мурашка П. В. не дасягнуў паўнагадовасьці прыцягнуў яго да злачыннай дзейнасьці і п'янства, зьдзейсьніўшы ў ноч на 1 сакавіка 1998 году хуліганства і наўмыснае пашкоджаньне маёмасьці, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'яненьня. *(л. с. -2- 186).*

Будучы дапытаным ў якасьці абвінавачваемага па гэтай крымінальнай справе Мурашка П. В. віну сваю ў прад'яўленым абвінавачваньні прызнаў часткова і па сутнасьці зададзеных пытаньняў засьведчыў, што 28 лютага 1998 года па ўзаемнай дамоўленасьці са сваімі былымі аднакласьнікамі Мухіным А. А. і Гілевічам А. А. яны вырашылі пайсьці на канцэрт гурта НРМ, які праходзіў у клубе імя Дзяржынскага ў Менску. Сустрэліся ўтрох на прыпынку грамадскага транспарту па вул. Карастаянавай каля гастранома і ў 18 гадзінаў 30 хвілінаў на грамадскім транспарце паехалі на канцэрт. Пасьля заканчэньня канцэрту купілі некалькі пляшак піва і выпілі іх. Мурашка П. В. таксама піў піва. Пасьля гэтага яны вырашылі паехаць дамоў, але ўжо знаходзячыся ў тралейбусе, вырашылі пагуляць яшчэ. Прыехаўшы на вул. Карастаянава Мурашка П. В. патэлефанаваў бацькам і сказаў, што ён зьбіраецца дамоў. Потым усе ўтрох пайшлі на прыпынак грамадскага транспарту "вул. Гая", разьмешчаны па вул. Арлоўскай, каб правесьці дадому Гілевіча А. А., дзе Мухін А. А. прапанаваў яшчэ пагуляць і памаляваць. Усе ўтрох пайшлі дамоў да Мухіна, які жыве непадалёку ад прыпынку ў прыватным сектары. Мухін А. А. зайшоў дамоў і ўзяў балончык з фарбай, пра што вярнуўшыся на вуліцу сказаў Мурашку і Гілевічу, якія чакалі яго. Усе ўтрох накіраваліся да паліклінікі 16 на вул. Шчадрына Гілевіч А. А. з выкарыстаньнем балончыка з фарбай, які дома ўзяў Мухін, на плоце напісаў нейкую фразу, якую менавіта Мурашка ня бачыў, бо ў яго кепскі зрок. Потым усе ўтрох накіраваліся на вул. Арлоўскага, дзе Мухін узяў балончык і на фасадзе дома пачаў пісаць нейкую фразу. Потым усе ўтрох пайшлі да школы №79, дзе Мурашка ўзяз балончык з фарбай і на тарцавым баку будынка школы напісаў "Лука гніда". Пасля гэтага ўсе ўтрох сабраліся дамоў і пайшлі на прыпынак грамадскага транспарту "Кіеўскі сквер", дзе нехта, хто канкрэтна Мурашка ня памятае, прапанаваў напісаць пра той гурт, на канцэрце якога яны былі. Мурашка ўзяў балончык і на паветцы прыпынку напісаў "Жыве НРМ". Гілевіч там жа пачаў малявац сьцяг. У гэты час пад'ехалі супрацоўнікі міліцыі. Мурашка, Гілевіч і Мухін сталі ўцякаць у двары бліжэйшых дамоў, дзе іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі, пасьля чаго даставілі ў Цэніральны РАУС г. Менску для далейшага разьбіральніцтва. Мурашка П. В. прызнае сваю віну ў тым, што ён

 

запэцкаў фасад будынку і пашкодзіў маёмасьць. *(л. с. -155).*

Мухін А. А. будучы дапытаным па гэтай справе ў якасьці абвінавачваемага, віну сваю ў прад'яўленым абвінавачваньні прызнаў часткова і па сутнасьці зададзеных пытаньняў засьведчыў, што з Мурашкам П. В. і Гілевічам А. А. ён вучыўся у адным класе СШ-50 г. Менску. 28 лютага 1998 году яны дамовіліся разам пайсьці на канцэрт гурта "НРМ", які адбываўся ў ДК імя Дзяржынскага. Пасьля канцэрту яны пайшлі гуляць па горадзе і прыйшоўшы ва універсам "Цэнтральны" Мухін набыў дзьве пляшкі піва. Мурашка і Гілевіч таксама набывалі піва. Пасьля таго як побач з крамай выпілі піва, усе ўтрох паехалі на вул. Карастаянавай, дзе ў краме Мухін купіў яшчэ піва і выпіў яго каля крамы. Пасьля гэтага яны пайшлі праводзіць Гілевіча на прыпынак. На прыпынку Мухін прапанаваў паспрабаваць як малюе балончык, які ён набыў на рынку ў Ждановічах дзеля таго, каб пафарбаваць матаролер, які мае ягоны дзядзька. Усе ўтрох пайшлі дамоў да Мухіна, дзе ён узяў балончык з фарбай і ўсе ўтрох пайшлі да палiклінікі на вул. Шчадрына. Каля палiклінікі Гілевіч узяў у яго балончык і нешта напісаў на плоце. Мухін стаяў на скрыжаваньні і што канкрэтна пісаў Гілевіч ён ня бачыў. Потым усе ўтрох пайшлі на вул. Арлоўскую і там на доме Мухін напісаў на сьцяне дома "Лука мудак". Чаму ён напісаў менавіта такую фразу растлумачыць ня можа. Пасьля гэтага яны перайшлі дарогу і пайшлі да школы 79. Каля школы Мурашка ўзяў у Мухіна балончык і на тарцавым баку школы нешта напісаў. Мухін узяў у Мурашкі балончык і на фасадзе школы напісаў "Жыве Беларусь", намаляваў сьцяг і напісаў "Лука мудак". Пасьля гэтага Мурашка ўзяў у яго балончык і на другім баку школы напісаў нейкую фразу. Пасьля гэтага ўсе пайшлі на прыпынак грамадскага транспарту, дзе Мухін ня памятае хто напісаў "Жыве НРМ" і намаляваў сьцяг, і ў гэты час пад'ехала міліцэйская машына. Яны пабеглі ў двары бліжэйшых дамоў, дзе іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Пра тое, што Мурашку ня споўнілася 18 гадоў Мухін А. А. ня ведаў *(л. с. -162).*

Гілевіч А. А. будучы дапытаным у якасьці абвінавачваемага па гэтай крымінальнай справе, віну сваю ў прад'яўленым абвінавачваньні прызнаў часткова і па сутнасьці зададзеных пытаньняў засьведчыў, што з Мухіным А. А. і Мурашкам П. В. ён знаёмы з 8-га класу. Яны вучыліся ў адным класе. Пасьля школы ён з Мухіным паступіў у адзін інстытут і вучыліся ў адной групе. 28 лютага 1998 году яму дадому патэлефанаваў Мухін і прапанаваў схадзіць на канцэрт. У 18 гадзінаў 30 хвілінаў яны сустрэліся на вул. Карастаянавай і паехалі на канцэрт у ДК імя Дзяржынскага. Пасьля канцэрту яны ўтрох пайшлі гуляць па горадзе і прыйшлі ва універсам "Цэнтральны", дзе купілі піва, якое выпілі непадалёку ад крамы. Пасьля гэтага ўсе ўтрох паехалі на вул. Карастаянавай, дзе ў начной краме Мухін набыў яшчэ піва. Пасьля таго, як піва выпілі, Гілевіч вырашыў ехаць дамоў, і ўсе пайшлі на прыпынак "вул. Гая". Гілевіч вырашыў правесьці Мухіна і ўсе пайшлі да ягонага дому. Каля дома Мухін папрасіў яго пачакаць, а сам пайшоў дамоў і вярнуўся з балончыкам, у якім знаходзілася фарба. Яны вырашылі выпрабаваць фарбу і пайшлі да палiклінікі, дзе Гілевіч узяў балончык і на плоце напісаў "Луку на муку". Пасьля гэтага яны пайшлі на вул. Арлоўскую і там на адным з дамоў ці то Мухін, ці то Мурашка напісаў нейкую фразу. Пасьля гэтага яны перайшлі дарогу і пайшлі да школы. Каля школы Мурашка ўзяў балончык і на будынку школы напісаў "Беларусь у Еўропу — Лукашэнку ў ж..." Пасьля гэтага Мурашка і Мухін яшчэ нешта сталі пісаць на будынку школы, а Гілевіч адыйшоў ад іх і накіраваўся да прыпынку па вуліцы Арлоўскай. Мухін і Мурашка дагналі Гілевіча і ўсе пайшлі на прыпынак "Кіеўскі сквер". Там нехта прапанаваў напісаць пра гурт, на канцэрце якога яны былі. Мурашка ўзяў балончык і напісаў "Жыве НРМ". Гілевіч узяў у яго балончык і таксама хацеў штонебудзь напісаць, але ў гэты час яны ўбачылі міліцэйскую машыну і пачалі ўцякаць. Калі Гілевіч уцякаў, ён упусьціў балончык. Яны схаваліся ў пад'ездзе дома паблізу, дзе іх знайшлі супрацоўнікі міліцыі і затрымалі. *(л. с.-167).*

Сьведка Васюта В. М. засьведчыў, што ён працуе ў роце ППСМ Цэнтральнага РАУС г. Менску з 1989 года. 28 лютага 1998 году ён прыступіў да нясеньня службы па ахове грамадскага парадку прыкладна ў 23 гадзіны 45 хвілінаў. Прыступіўшы да службы і праязджаючы па вул. Арлоўскай на службовым аўтамабілі, якім кіраваў міліцыянер-вадзіцель Шулешка, яны зьвярнулі ўвагу на трох маладых хлопцаў, адзін зь якіх маляваў нешта на прыпынку грамадскага транспарту "Кіеўскі сквер". Убачыўшы міліцэйскую машыну, хлопцы пачалі ўцякаць праз Кіеўскі сквер у накірунку вул. Азізава. Васюта выбег з машыны і пабег за хлопцамі, а вадзіцель пачаў іх даганяць на машыне. Каля дома 5 па вул. Азізава адзін з хлопцаў выкінуў на зямлю балончык з-пад фарбы. Пасьля гэтага хлопцы забеглі ў адзін з пад'ездаў гэтага дома, дзе і былі затрыманыя. У час затрыманьня хлопцы супраціўленьня не аказвалі. Затрыманыя былі дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС г. Менску, дзе было ўстаноўлена, што затрыманымі зьяўляюцца Мурашка П. В., Мухін А. А. і Гілевіч А. А. Пры руху да РАУС каля дома 5 па вул. Азізава Васюта падабраў выкінуты адным з хлопцаў балончык з фарбай. Пры далейшым абсьледаваньні прылеглай тэрыторыі было ўстаноўлена, што акрамя прыпынку грамадскага транспарту аналагічнай фарбай былі нанесеныя розныя надпісы, у тым ліку і абражальнага характару на адрас прэзідэнта РБ А. Р. Лукашэнкі, на будынку СШ-79 па вул. Азізава, на доме 26 па вул. Арлоўскага і на плоце па вул. Шчадрына 82. *(л. с.-117).*

Сьведка Шулешка А. М. даў аналагічныя паказаньні *(л. с.-139).*

Сьведка Шадура В. І. засьведчыў, што ён працуе начальнікам філіяла № 7 ТАА "Белрамбудсувязь" (так у дакуменце — **рэд.**).Ад супрацоўнікаў міліцыі яму стала вядома пра тое, што плот агароджвальна тэрыторыі прадпрыемства запэцканы фарбай. Паводле разьлікаў неабходных сродкаў для правядзеньня рамонту агароджы і яе афарбоўкі, сума нанесеных стратаў склала 330 240 рублёў *(л.с. -127)*

Сьведка Лашкевіч Л. А. засьведчыла, што яна працуе майстрам РСУ ТАА Менскі фарфоравы завод. Ад супрацоўнікаў міліцыі ёй стала вядома пра тое, што на фасадзе будынку жылога дома 26 па вул. Арлоўскай фарбай былі нанесеныя надпісы. Для правядзеньня касьметычнага рамонту будынка неабходна патраціць 168 000 рублёў. *(л. с.-130).*

Сьведка Фралоў Г. М. засьведчыў, што ён працуе начальнікам ДЭУ Цэнтральнага раёну г. Менску. Ад супрацоўнікаў міліцыі ёй стала вядома пра тое, што на прыпынку грамадскага транспарту "Кіеўскі сквер" па вул. Арлоўскай 42 у г. Менску фарбай былі нанесеныя розныя надпісы. Рамонт паветкі прыпынку складае 625 556 рублёў РБ. *(л. с.-133).*

Сьведка Саковіч І. В. засьведчыла, што яна працуе дырэктарам СШ-79 г. Менску. 2 сакавіка 1998 г., прыйшоўшы на працу яна ўбачыла, што фасад будынка школы запэцканы фарбай чырвонага колеру. Былі надпісы і з тарцавых бакоў школы. Сума нанесеных стратаў складае 3 041 472 руб. *(л. с.-136).*

Шадура В. І., Лашкевіч Л. А., Фралоў Г. М., Саковіч І. В. і арганізацыі , якія яны ўзначальваюць, па гэтай крымінальнай справе прызнаныя грамадзянскімі істцамі.

Акрамя таго віна абвінавачваемых пацьвярджаецца іншымі матэрыяламі крымінальнай справы: пратаколамі агляду мейсца здарэньня *(л. с.-4-13)*, фотатаблiцамі *(л. с.-4-13)*, пратаколам агляду рэчавых доказаў*(л. с.-31)*, заключэньнем экспертызы *(л. с.-33-42)*, пратаколамі медыцынскага агляду *(л. с.-18-20)* і іншымі матэрыяламі крымінальнай справы.

Абставінаў, якія зьмякчаюць адказнасьць абвінавачаных, сьледства не знаходзіць. Абставінай, якая абцяжарвае адказнасьць абвінавачваемых, зьяўляецца зьдзяйсьненьне злачынства ў стане алкагольнага ап'яненьня.

На падставе вышэй выкладзенага *Мухін Алесь Аляксандравіч,* 9. 01. 1980 года нараджэньня...

....абвінавачваецца ў тым, што сваімі дзеяньнямі Мухін А. А. зьдзейсьніў злачынства па прыкметах наўмысных дзяньняў, груба парушаючых грамадскі парадак і выражаючых яўную непавагу да грамадства, прадугледжанае арт. 201 ч. 1 КК РБ.

Сваімі дзеяньнямі Мухін А. А. зьдзейсьніў злачынства па прыкметах наўмыснага пашкоджаньня маёмасьці, прадугледанае арт. 96 ч. І КК РБ.

Сваімі дзеяньнямі Мухін А. А. зьдзейсьніў злачынства па прыкметах уцягненьня непаўналетніх у злачынную лзейнасьць і п'янства, прадугледжанае арт. 205 КК РБ.

*Гілевічу Андрэю Аляксандравічу*, 13. 12. 1979 года нараджэньня — прад'яўлены аналагічныя абвінавачваньні па арт. 201 ч. І, 96 ч. І і 205 КК РБ.

*Мурашка Павел Валер'евіч,* 26. 05. 1980 года нараджэньня...

...абвінавачваецца ў тым што сваімі дзеяньнямі зьдзейсьніў злачынства па прыкметах наўмысных дзеяньняў, груба парушаючых грамадскі парадак і выражаючых яўную непавагу да грамадства, прадугледжанае арт. 201 ч. І КК РБ.

Сваімі дзеяньнямі Мурашка П. В. зьдзейсьніў злачынства па прыкметах наўмыснага пашкоджаньня маёмасьці, прадугледанае арт. 96 ч. І КК РБ УК РБ.

**Сьледчы СА**
**Цэнтральнага РАУС г. Менску**
**маёр міліцыі Сачак С. А.**



 

# Хроніка

(Пачатак на стар 1)

*13 траўня* – сябры "Маладога Фронту" В.Канапацкі і В.Умрэйка атрымалі позвы ад КДБ з прапановай зьявіцца "для гутаркі". Выклік у КДБ маладых актывістаў зьвязаны з удзелам іх у палітычных акцыях, накіраваных супраць дыктатуры А.Лукашэнкі. Супрацоўнік КДБ У.Шабан прапанаваў ім падпісацца пад пратаколам, дзе іх афіцыйна папярэджвалі пра тое, што іхнія ўчынкі могуць прывесьці да крымінальнай адказнасьці.

*13 траўня* – актывіст "Маладога Фронту" з Мар'інай Горкі С.Кульчанка за ўдзел у акцыі 2 красавіка быў выкліканы на паседжаньне камісіі па справах непаўналетніх, дзе атрымаў папярэджаньне.

*14 траўня* – адбыліся шэсьце і рок-канцэрт у абарону палітычных зьняволеных А.Шыдлоўскага і П.Севярынца, у якіх узяла ўдзел больш за тысячу чалавек. Пасьля акцыі людзьмі ў цывільным былі затрыманыя Т.Судзілоўская і Л.Валуй. Назаўтра суд Савецкага раёну г. Менску асудзіў Т.Судзілоўскую да штрафу ў памеры 5 мільёнаў руб.(больш за 100 даляраў), а Л.Валуя, пры дапамозе камітэту "Вясна-96" апраўдаў.

*14 траўня* – у Віцебску прэзідэнцкі сьцяг над віцебскім аблвыканкамам быў заменены на нацыянальны беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Каля сьцяга была пакінутая запіска: "За ўсіх палітвязьняў Беларусі".

*У траўні* – вязьню дэпутату А.Клімаву пагоршылі умовы ўтрыманьня ў камеры. Яго перавялі ў камеру, дзе на адзін ложак прыходзіцца па два чалавекі і вязьні сьпяць па чарзе.

*У траўні* – дэпутат 13 склікаьня В.Шчукін заявіў, што "майскія судовыя працэсы ня толькі палітычныя. Яны маюць і яўна выражаны шавіністычны характар".

*Травень* – былы дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык ня можа ўладкавацца на працу нават грузчыкам у чыгуначны цэх. У аддзеле кадраў Менскага трактарнага заводу яму шчыра паведамілі, што "вас загадана ні ў якой якасьці ня браць. Загад прыйшоў згары".

*У траўні* – міністэрства адукацыі РБ паведаміла пра замену дыпломаў дзяржаўнага ўзору, якія раней выдавалі і недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы на іншыя дыпломы, што ў беларускіх умовах будзе зьяўляцца дыскрымінацыяй навучэнцаў недзяржаўных ВНУ. Гэтыя дыпломы будуць расцэньвацца як другасныя. Група студэнтаў недзяржаўных ВНУ сабрала пад лістом пратэсту 1800 подпісаў.

*У траўні* – Вярхоўны суд пакінуў у сіле 7-гадовы прысуд да зьняволеньня дэпутату 13 склікаьня У.Кудзінаву, які знаходзіўся ў апазіцыі да прэзідэнта А.Лукашэнкі.

*У траўні* – у Магілёве Алесь Бацюкоў зьвярнуўся ў Кастрычніцкі раённы суд для абскарджаньня рашэньня адміністратыўнага суда, у якім ён быў асуджаны на 500 тыс.руб. за раздачу ўлётак пасьля пікету 1 красавіка 1998 г. Судзьдзя Умараў адмовіўся прыняць заяву А.Бацюкова таму, што яна была напісаная па-беларуску. На наступны дзень судзьдзя Л.Арлова таксама адмовілася прыняць ад яго заяву на той самай падставе. Пасьля ягоных настойлівых просьбаў яна зарэгістравала заяву, але прапанавала А.Бацюкову перапісаць заяву па-руску.

*20 траўня* – у Менскім гарсавеце адбыліся слуханьні па парушэньні законаў супрацоўнікамі праваахоўных органаў пад час апазіцыйных грамадскіх мерапрыемстваў. Дэпутат Я. Круткоў сказаў, што "фінансаваньне міліцыі сёлета павялічылі ў 3,1 разы". Дэпутаты зацікавіліся, на што пайшлі гэтыя грошы.

*22 траўня* – у адкрытым лісьце бацькі П.Севярынца Тацяна і Кастусь паведамілі, што "сьледчы Ігар Голубеў даў нам адмову на законнае патрабаваньне выступаць абаронцамі сына пры ягонай згодзе, чым груба парушыў артыкул 49 Крымінальна-працэсуальнага Кодэкса РБ".

*27 траўня* – газета "Навіны" паведаміла, што Брэсцкія ўлады шмат зрабілі, каб не дапусьціць правядзеньня ў горадзе міжнароднай канферэнцыі па праблемах памежнага супрацоўніцтва ў рамках эканамічных зонаў Буг і Нёман. За два дні да пачатку канферэнцыі арганізатарам безпадстаўна адмовілі ў яго правядзеньні, а потым у самы апошні момант дазволілі, але пазбавілі раней вызначанага памяшканьня.

*У канцы траўня* – адбылася адміністратыўная камісія па справах непаўналетніх у Мар'інай Горцы, на якой разглядалася справа Дз.Васьковіча, ягоны ўдзел у моладзевай апазіцыйнай акцыі 2 красавіка 1998 г. Нагадаем, што супраць Дз.Васьковіча была ўзбуджаная крымінальная справа, Дз.Васьковіч на камісіі атрымаў папярэджаньне.

# Пра заўтра трэба дбаць сёньня

«Дзіцячых» праблемаў у сучаснай Беларусі, на вялікі жаль, штогод большае. Усё меншую колькасьць маленькіх жыхароў нашай краіны медыкі могуць упэўнена называць зусім здаровымі. Усё большая колькасьць сем'яў распадацца. Узрастае жорсткасьць дзяцей і, як вынік, працэнт юных злачынцаў. У краіне больш за 20 тысяч дзяцей — інвалідаў, прыкладна столькі ж – сіротаў... якія ( ў 95 працэнтах выпадкаў) маюць жывых бацькоў.

Складаныя сацыяльна-экалагічныя ўмовы, страх перад наступствамі Чарнобыльскай катастрофы, няпэўнасьць будучыні — гэта няпоўны пералік прычынаў, з-за якіх сёньня беларускія жанчыны часта проста баяцца нараджаць дзетак. Мы ўжо некалькі гадоў маем сітуацыю, калі беларусаў памірае болей, чым зьяўляецца на сьвет...

Здаецца – дастаткова выпрабаваньняў для адной нацыі! Але не. Да іх дадаліся новыя, прама зьвязаныя з палітыкай уладаў. Гэта і пераьслед грамадскіх арганізацыяў, якія займаюцца аздараўленьнем дзетак і гуманітарнай дапамогай. Гэта так званае «адраджэньне» забруджаных радыяцыяй тэрыторыяў, накіраваньне туды выпускнікоў інстытутаў, тэхнікумаў, вучылішчаў. У рэшце рэшт, гэта жорсткія расправы з падлеткамі і маладымі людзьмі, якія выказваюць нязгоду зь існуючым рэжымам.

Пра ўсё гэта гаварылі ўдзельнікі мітынгу, які прайшоў 1 чэрвеня ў Менску пад лозунгам «Абаронім нашых дзяцей!» Яго арганізавалі Беларускі жаночы рух «За адраджэньне Айчыны», а таксама сябры «Хартыі — 97» і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У акцыі ўзялі ўдзел і сябры «Маладога Фронту» якія трымалі партрэты сваіх зьняволеных сяброў — Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца. Каля 150 удзельнікаў, пераважна моладзі і жанчын з дзецьмі, са-браліся а шостай вечара на пляцы Якуба Коласа. На паўгадзіны шэсьце па праспекце Скарыны затрымаў моцны дождж, але людзі чакалі ў падземным пераходзе і не разыходзіліся.

Наперадзе шэсьця ішлі некалькі хлапчукаў, ачэпленых імправізаваным калючым дротам, і несьлі транспарант са словамі: «Спасибо товарищу Лу... за наше счастливое детство» Як звычайна, вулічны пейзаж арганічна дапаўняўся строямі — камуфляжамі міліцыянтаў і постацямі ў цывільным з відэакамерамі на плячы. Гэтым разам «відзапалявань-не» сьпецслужбаў скіравана было на жанчын і дзяцей. Сьпецыфіка моманта была адлюстравана наяўнасьцю адной сьпецапаратаркі жаночага полу.

Мітынг на плошчы Парыжскай Камуны правяла лідэр жаночага руху журналістка Тацццяна Ваніна. Сярод выступоўцаў была і маці палітвязьня Паўла Севярынца... Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з шэрагам патрабаваньняў: неадкладнае вызваленьне з калоніі 19-гадовага А. Шыдлоўскага і 21-гадовага П. Севярынца – з СІЗА; узбуджэньне крымінальных справаў супраць тых міліцыянтаў, што катавалі голадам, здзекамі, зьбівалі непаўналетніх у пастарунках; недапушчэньне прымусовага накіраваньня выпускнікоў ВНУ у чарнобыльскую зону; забесьпячэньне дзецям права вучыцца на роднай мове... Але самым галоўным патрабаваньнем сталася патрабаваньне адстаўкі прэзідэнта Лукашэнкі, які, паводле рэзалюцыі, «ня дбае пра нацыю, яднаньне беларусаў у адну сям'ю, пра заможнае жыцьцё народа ў сваім уласным доме, пра шчасьлівую і духоўную будучыню для нашых дзяцей».

**Наш. кар.**

# "Перасьлед адвакатаў за іх прафесійную дзейнасьць — не дапушчальны...

(Пачатак на стар. 3)

Пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах у 1992 годзе. Гэты Факультатыўны пратакол дае права грама-дзянам краінаў, якія яго ратыфікавалі, пасьля праходжаньня сваіх нацыянальных інстанцыяў зьвярнуцца па вырашэньне сваіх спраў і абарону парушаных уладамі правоў у гэты Камітэт па правах чалавека. Гэта несудовы орган, але гэты орган можа запатрабаваць адмяніць пэўныя судовыя рашэньні. Калі ён палічыць, што правы чалавека сапраўды былі парушаныя і ён асуджаны незаконна – можа рэкамендаваць ураду гэтай дзяржавы перагледзець судовую пастанову. Калі ж, насуперак гэтым рэкамендацыям, дзяржава не пераглядае прысуд (альбо рашэньне па грамадзянскай справе, альбо іншую спрэчку, зьвязаную з парушэньнем правоў чалавека) – тады гэты прыклад, як грубае парушэньне правоў асобы ў дзяржаве, уключаецца ў штогадовы даклад сесіі Генеральнай Асамблеі ААН А там ўжо маюць права прымаць адпаведныя санкцыі супраць дзяржавы-парушальніка. Што гэта будуць за санкцыі, вырашаецца сьпецыяльнымі камітэтамі, сьпецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Палітычныя, дыпламатычныя, эканамічныя – усемагчымыя санкцыі.

Асабіста я прыхільнік таго, каб Беларусь як найхутчэй увайшла ў склад Савета Еўропы. Тады б, як паўнапраўныя члены міжнароднай супольнасьці, беларускія грамадзяне падлягалі б пад юрысдыкцыю Міжнароднага Суда ў Страсбурзе і Гаазе... Допускаецца калегіяльны, калектыўны ціск на ўрад, які дапусьціў такі прэцэдэнт, як невыкананьне рэкамендацыяў настолькі паважаных структураў. Бо калі подпіс кіраўніка краіны стаіць, а парламенты ратыфікуюць міжнародныя дамовы – гэта значыць, яны бяруць на сябе абавязкі выконваць тыя прынцыпы, што ўтрымліваюцца ў іх. Вядомыя выпадкі, калі імкненьне прымусіць урад выконваць нормы правоў чалавека даходзіла да ўводу войскаў, як гэта адбылося ў Босьніі, Харватыі...

***— Гары Пятровіч, вы вядомы як абаронца Т. Віньнікавай, С. Адамовіча, П. Шарамета, вы спрабавалі бараніць П. Севярынца... Гэта ўсё — гучныя справы на мяжы палітычнага скандалу. Калі прыступалі да ўдзелу ў першай такой справе, ці было нейкае прадчуваньне, што іх будзе шмат? Ці была маральная гатоўнасьць да сёньняшняга ўціску?***

— Мы, здаецца, ужо і забылі былі, што такое «палітычная справа», але сёньняшнія ўлады нам нагадалі. Палітычная справа – гэта парушэньне правоў чалавека, перасьлед за ягоныя перакананьні. Людзей незаконна звальняюць з працы ці не даюць нармальна працаваць, іх пазбаўляюць жылля, нармальных умоў жыцьця. «Вянцом» жа зьяўляецца крымінальны перасьлед і зьняволеньне. Я ня ўзяў бы на сябе сьмеласьць кваліфікаваць многія справы, у якіх браў удзел, менавіта як палітычныя – тую ж справу Віньнікавай. Я чуў пра гэта ад першых асобаў краіны, з вуснаў якіх гучалі абвінавачваньні яшчэ да таго, як яны былі прад'яўленыя сьледствам. Віньнікава была зьмешчаная з пасады ўладай, але абвінавачваньні на яе адрас былі вядомыя яшчэ перад яе прызначэньнем самому ж прэзідэнту, які і вылучыў яе на пост кіраўніка Нацбанку. Падчас сьледства замест тых абвінавачваньняў зьявіліся іншыя.

***— Ці не таму, што вядомыя раней —закраналі асобы з кіраўніцтва Беларусі?***

— Не абавязкова. Магчыма, проста не знайшлося дастаткова доказаў для іх абгрунтаваньня...

***— Нешта падобнае адбываецца і ў выпадку Паўла Севярынца: зараз яму «па лініі сьпецслужбаў» зьбіраюцца, як кажа сьледчы Голубеў, прад'явіць абвінавачваньне ў дзяржаўным злачынстве.***



— Я пасьпеў азнаёміцца з матэрыяламі справы Паўла Севярынца і магу сьцьвярджаць, што ніякага хуліганства зь ягонага боку не было. Калі ж пра новае абвінавачваньне сьледчы гаворыць ягонаму бацьку да таго, як абвінавачваньне гэтае прад'яўлена – гэта, прынамсі, неэтычна. Я ўжо не кажу пра тое, што гэта непрафесійна.

***— І ўсё ж: было прадчуваньне такога разьвіцьця падзеяў у Беларусі, калі вы абаранялі яшчэ Адамовіча?***

— Я ня мог нават уявіць, што ўлады дадумаюца чыніць перасьлед адвакатаў за іх прафесійную дзейнасьць! Такога нават у савецкія часы не было! Хаця адвакатаў, як і іншых грамадзянаў, беспадстаўна арыштоўвалі, былі у адносінах іх і расстрэльныя справы – асабліва сярод прадстаўнікоў старой, яшчэ дарэвалюцыйнай расійскай школы. У 30-я гады абарона допускалася толькі ў залу суда, пазьней, пасьля сьмерці Сталіна, — з моманту прад'яўленьня абвінавачваньня. Цяпер – з моманту затрыманьня.. У савецкіх судах адвакат выконваў чыста дэкаратыўную ролю, цяпер паспрабуй яшчэ дабрацца да суда!

Адвакат не вінаваты ў тым, што да яго зьвяртаюцца людзі па дапамогу. Дастаткова суб'ектыўнага меркаваньня чалавека – непрызнаньня сваёй віны, каб адвакат быў абавязаны яму дапамагчы. Я бачу тут падабенства да прафесіі лекара. Вось сітуацыя: хірургу на аперацыйны стол кладуць чалавека з вострым прыступам апендыцыта. Чалавек асуджаны на сьмяротнае пакараньне за нейкае злачынства. Дык што, хірург адмовіцца апераваць, бо хвораму ўсё роўна ня жыць? Але выкананьне прысуду – не ў ягонай кампетэнцыі! Ён, як чалавек, што даваў клятву Гіпакрата, павінен лячыць любога хворага. А асуджаны мае права яшчэ абскардзіць прысуд, і магчыма, той нават будзе адменены...

***— Ці атрымліваецца ўсё ж запалохаць адвакатаў на вашым прыкладзе?***

— Мой выпадак, як вядома, не адзіны. Падобнае адбылося з Надзеяй Дударавай, згусьціліся хмары над Верай Страмкоўскай. Безумоўна, пэўныя вынікі такія метады ўладаў далі. Узгадайце, як доўга не знаходзілася адваката для Паўла Севярынца. Але частка маіх калегаў не бярэцца за справы з палітычнай афарбоўкай не таму, што вельмі запалоханыя. Проста ў іх хапае працы па іншых справах і ёсьць магчымасьць зарабіць на жыцьцё. Асаблівай канкурэнцыі сярод адвакатаў не адчуваецца з-за параўнальна малой іх колькасьці. У заходніх краінах адзін адвакат прыпадае на 300-400 чалавек насельніцтва, у нас – прыкладна на 10 тысяч.

***— Што сёньня рэальна можна зрабіць, каб абараніць прафесійнага абаронцу ад любога ўціску?***

— Патрэбна прыняць новы закон аб адвакатуры, які 1) аддзяліў бы адвакатуру ад органаў дзяржаўнага кіраваньня і ўладаў. Адвакатура павінна быць моцнай праваабарончай арганізацыяй высокапрафесійных юрыстаў. 2) На ўзроўні дзяржаўнага рэгуляваньня адвакатурай патрэбна забясьпечыць прыняцьце новага дэмакратычнага закону аб адвакатуры, што адпавядаў бы міжнародным стандартам для гэтага канстытуцыйнага інстытута, стварыць умовы для таго, каб адвакаты маглі рэальна аказваць юрыдычную дапамогу людзям незалежна ад іх палітычных поглядаў, рэлігійных перакананьняў і матэрыяльнага становішча. Для таго, каб адвакацкая дапамога была даступнай кожнаму, патрэбна дапамога дзяржавы, а менавіта – льготы ў падаткаабкладаньні, прадстаўленьні службовых памяшканьняў, бясплатнае забесьпячэньне прававой інфармацыі. Дзяржава павінна аплочваць працу адвакатаў, якія аказваюць юрыдычную дапамогу бясплатна ў выпадках, прадугледжаных законам.

**Гутарыла Тацьцяна СЬНІТКА**

# У спратах "Валадаркі"

## Калонія-5

Толькі ў сярэдзіне чэрвеня ўсталявалася адносна добрае надвор'е. Усю вясну ў мястэчку Старасельле, дзе разьмешчаная калонія пасяленьня, дзьмуў моцны вецер і сыпалі дажджы. Тыя, каму давялося адседзець у гэтай установе больш доўгі тэрмін, сьцьвярджалі, што добрае надвор'е у гэтай мясцовасьці бывае рэдка. Да дня майго вызваленьня заставаўся ўсяго адзін тыдзень, і думкі мае ўжо луналі за калючым дротам. Гэта вельмі непакоіла майго новага знаёмага, былога завуча вясковай школы, які ўвесь час займаўся рэдагаваньнем уласнага прашэньня да прэзідэнта РБ Лукашэнкі. Усе папярэднія скаргі, разасланыя ў розныя ўстановы, вынікаў не далі. На некаторыя зь іх ён нават не атрымаў звычайных адпісак. Але ж у ягонай душы яшчэ цеплілася надзея на хуткую рэабілітацыю. Асабліва ажыў ён, калі даведаўся, што старшыня РАНА, па ініцыятыве якога была ўзбуджаная крымінальная справа, быў зволены з працы. Ён спадзяваўся, што я праз тыдзень, як выйду на волю, перадам ягоны ліст адразу ў адміністрацыю прэзідэнта. Перадача ягонага ліста была для мяне справай не складанай, і я адразу згадзіўся дапамагчы яму, але ж выказаў на гэты конт сваё меркаваньне, што гэта зусім не палепшыць яго становішча. Бо ведаў, што на працягу 1997 года з прашэньнямі аб памілаваньні да прэзідэнта Беларусі зьвярнулая вялікая колькасьць людзей, сярод якіх 35 чалавек, асуджаных да сьмяротнага пакараньня . Ніводны з іх не дачакаўся літасьці ад першага беларускага прэзідэнта, якому дадзена права вырашаць людскія лёсы ў апошняй інстанцыі. Я спрабаваў пераканаць настаўніка, каб ён дарэмна не марнаваў час. Тым больш, што займацца справамі вясковага настаўніка, нягледзячы на тое, што некалі той аддаў за Аляксандра Рыгоравіча свой голас, прэзідэнт ня стане. Калі ты ўжо апынуўся у гэтай установе, трэба настройваць сябе ня ўвесь тэрмін, і ўспрымаць рэаліі жыцьця такімі, якія яны ёсьць, а не будаваць ілюзіі на хуткае вызваленьне. Беларускія калоніі ня ў стане перавыхаваць чалавека.

Было відавочна, што трохмесячнае знаходжаньне настаўніка за кратамі зрабіла адпаведны адбітак на ягоныя паводзіны. Нягледзячы на тое, што ён яшчэ не пачаў ужываць "чыф" і глытаць"калёсы", але "закруціць пальцы" і пагаварыць на блатным жаргоне былы педагог ужо навучыўся. Патрапіўшы за краты ты ня маеш аніякіх правоў, а толькі абавязкі. Абсурдны спіс абавязкаў, які табе даводзіцца падпісаць у першы дзень знаходжаньня ў калоніі нічога, апрача сьмеху, не выклікае. Але ж адзін радок з абавязкаў, у якім гаворыцца аб актыўным удзеле ў секцыях самадзейных арганізацыяў, мне запомніўся надоўга. Па-першае, таму што ніякай самадзейнасьці тут ніколі не было і быць ня можа. 31 сьнежня пад час вячэрняй праверкі будучы на падпітку, прапаршчык Александровіч расчуліўся і вымавіў віншавальную прамову, пасьля чаго дазволіў асуджаным паслухаць у навагоднюю ноч радыё. На пытаньне, ці ўсё зразумелі, мой зямляк і даўні сябра Лёха вырашыў пажартаваць і запытаў:"А дыскатэка будзе?" Кантралёр Александровіч разьюшыўся і на працягу паўгадзіны з дапамогай металічнага прута жорстка зьбіваў Лёху. У выніку было зламана дзве рабрыны і адбіта нырка. Некалькі месяцаў ён ледзь хадзіў, але ж паскардзіцца на прапаршчыка не адважваўся.

Першага траўня, каб крыху пацешыцца, мы з Лёхам наладзілі імпрэзу пад назвай "маёўка". Пасьля адбою, лежачы на шконках, Лёха сьпяваў "Варшавянку", а я крычаў "Жандармы!" Пра гэтую імпрэзу нехта настукаў кантралёру Александровічу. Прапаршчык чамусьці расцаніў гэты выпадак як зьдзек над сваёй асобай. І ў чарговы раз, выкарыстоўваючы металічны прут, прадэманстраваў уласную моц. З дня майго вызваленьня прайшоў амаль год, але ж сагнутая ад удару арматура ў руках прапаршчыка дагэтуль стаіць перад вачыма.

У верасьні 1997 года адбыў свой тэрмін і Лёха. Але пагуляў на волі ён ня доўга, праз тры месяцы трыццацішасьцігадовы Лёха раптоўна памёр. Садысцкія схільнасьці і дзеяньні кантралёра Александровіча адгукнуліся такім вось чынам...

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№2-3, 5-9)*

*На здымку: гэта і ёсьць "абавязацельствы", якія прымушаюць падпісаць кожнага асуджанага.*



Приобщается к личному делу:

**Обязательство**

Я, осужденный ______________________

осуждаю свое преступное прошлое. обязуюсь с первых дней пребывания в колонии добросовестно выполнять требования исправительно-трудового кодекса и правила внутреннего распорядка, примерным поведением, честным трудом, активным участием в общественной работе искупить свою вину перед белорусским народом, своими товарищами и близкими.

Я обязуюсь точно выполнять правила поведения осужденных и распоряжения администрации, быть вежливым, не допускать нарушения установленного режима отбывания наказания, активно участвовать в одной из секций самодеятельных организаций, поддерживать товарищеские отношения с положительной частью осужденных.

Своим поведением, отличным трудом и добросовестной общественной работой я заслужу у своих воспитателей и Совета коллектива отряда доверие и всесторонне буду готовить себя к честной справедливой жизни на свободе. Мне известно, что при нарушении установленного порядка я буду подвергнут наказанию по закону и вплоть до привлечения к новой уголовной ответственности.

В чем собственноручно расписываюсь осужденный ______________
(подпись)

"___" ______________ 19 г.



Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mal:rights@v96.open.by. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.

У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"